

# ДЗВІНСКІ ЎЗГОРАК

*Кроч на свой родны, дзвінскі ўзгорак, каб глядзець у будучую сінь*

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №7 (149)
ТРАВЕНЬ 2022 ГОДА

САЛІДАРНАСЦЬ

# НА ЗНАК УДЗЯЧНАСЦІ ДА БЕЛАРУСАЎ

**Уладальнік беларускага паба ў Кіеве: Дзяўчына з Бучы, якая ў нас хавалася, на знак удзячнасці беларусам назвала дачку Алесяй. У Віцебску арт-паб «Торвальд» быў культавым месцам для гараджан, у Кіеве «Торвальд» стаў месцам духоўнай сілы для беларусаў, якія вымушана пакінулі Радзіму.**

Уладальнік арт-паба Віталь Броўка — адзін з тых, хто таксама з'ехаў за мяжу з-за ціску на бізнес у Беларусі. Ён дагэтуль застаецца ў Кіеве. З ім пагутарыла «Салідарнасць».

— Натуральна, у мяне ніколі не было ніякіх ілюзій наконт пуцінскага рэжыму і ўвогуле расійскага імперыялізму, але ў тое, што ён здатны ў XXI стагоддзі аж на такое прымітыўнае архаічнае ўварванне з ударамі па мірных гарадах, у гэтае, канешне, не верылася, — кажа суразмоўца. — Я адношуся якраз да тых наіўных, хто яшчэ 23 чысла не верыў, што ўсё пачнецца і што пачнецца менавіта так.

Хаця мы дзейнічалі па прынцыпе «хочаш міра — рыхтуйся да вайны». У «Торвальдзе» напярэдадні праходзілі лекцыі з практычнымі заняткамі па паводзінах цывільных асобаў ва ўмовах баявых дзеянняў у гарадах, ва ўмовах нападу.

Слухаць гэтыя лекцыі збіралася шырокая аўдыторыя, пераважна беларусы, якія знаходзіліся ў Кіеве, але прыходзілі і жыхары суседніх кварталаў.

Чыталі лекцыі дасведчаныя аб вайне беларусы, ветэраны АТО. Зараз гэтыя людзі з'яўляюцца інструктарамі батальёна імя Кастуся Каліноўскага. Але нават яны ў тыя дні выказвалі спадзяванні, што вайна ўсё ж не прыйдзе ў Кіеў і іншыя рэгіёны Украіны, што яна будзе лакалізаваная на Данбасе. Але рыхтавалі ўсіх.

Разам з міжнароднымі медычнымі арганізацыямі ў нас быў запланаваны шэраг курсаў па аказанні першай дапамогі і падрыхтоўцы парамедыкаў. Якраз на 24-25 лютага былі прызначаны старт гэтых курсаў. Такім чынам, усім адразу прыйшлося перайсці да практычных дзеянняў.

— Штосьці з пачутага падчас лекцый прыйшлося потым прымяняць на практыцы?

— Трэба сказаць, што наш арт-паб быў адчынены ў старым савецкім бомбасховішчы. Таму і ў гэтым плане мы таксама былі лепей за іншых падрыхтаваныя да вайны.

Уся каманда «Торвальда» не згубілася падчас гэтай нечаканкі і вельмі хутка і зладжана прыступіла да каардынацыі людзей пад бамбёжкамі і абстрэламі. З першага дня ў арт-пабе знайшлі прытулак больш за сотню людзей.

А калі па Кіеве стала прылятаць у жылыя дамы, у нас хаваліся і па 170 чалавек. Гэта былі і студэнты навучальнай установы, якая знаходзіцца побач, і іх выкладчыкі, таксама жыхары навакольных кварталаў, іх родныя, якія пераехалі з іншых раёнаў Украіны. У асноўным моладзь, пажылыя людзі, маладыя бацькі з немаўлятамі.

Мы арганізавалі кругласутачнае знаходжанне ўсіх гэтых людзей, іх бытавое забяспячэнне, трохразовае бясплатнае гарачае харчаванне. Адразу ж у першы дзень калектыў арт-паба пачаў рабіць запас вады, медыкаментаў, прадуктаў.

Не было ніякай панікі, было разуменне адказнасці за жыццё і здароўе людзей, якія апынуліся ў нас.

Было разуменне, што для гэтага трэба рабіць, як дзейнічаць, як маскавацца, бо, вы ведаеце, што ў Кіеве ў тыя дні дзейнічала шмат дыверсійных груп.

Мы не асвятлялі месцазнаходжанне свайго прытулку і валанцёрскага цэнтру, каб не стаць аб'ектам нападу, бо разумелі беспрынцыпнасць расійскіх войскаў.

У нас было ўтульней, чым у метро. Валанцёры нашага сховішча вельмі стараліся, каб было дастаткова бяспечна і камфортна для ўсіх.

***(працяг на стар. 2)***

**Чытайце сайт Віцебскага раёна: http://vicebskreg.by**

СУДОВЫ ПЕРАСЛЕД

# СЛЕДСТВА ПРАЦЯГВАЕЦЦА

**Следчыя працягваюць шукаць доказы супраць Сяргея Каваленкі, які спаліў чырвона-зялёны сцяг.**

У дачыненні да віцябляніна Сяргея Каваленкі распачатая крымінальная справа за «знявагу дзяржаўных сімвалаў». Пра гэта жонцы віцебскага актывіста стала вядома ў кастрычніку 2021 году. Тады да яе прыходзілі зператрусам і распытвалі, дзе знаходзіцца яе муж. Днямі да Алены Каваленкі зноў прыходзілі міліцыянты.

Не заспеўшы Алену Каваленку ўдома, супрацоўнікі МУС апыталі суседзяў, ці даўно тыя бачылі Сяргея Каваленку, хаця той ужо тры гады жыве ў Польшчы. Пра нечаканы візіт супрацоўнікаў міліцыі Алена Каваленка распявяла ў Фэйсбуку, завяршыўшы свой допіс фразай: «Жывеш і адчуваеш, як пастка зачыняецца».

Паводле жонкі актывіста, міліцыянты прыходзілі і да ягонай маці, спадарыні Святланы.

Сяргей Каваленка з'ехаў у Польшчу тры гады таму, бо ў Беларусі пачуваў сябе ў небяспецы. У Віцебску засталася ягоная жонка і двое дзяцей. Падставай для крымінальнай справы стала відэа, размешчанае ў Тэлеграм-каналах. На ім зафіксавана, як Сяргей Каваленка падпаліў дзяржаўны беларускі сцяг падчас адной з акцыяў у падтрымку палітвязняў у Варшаве. Следчы камітэт у Беларусі адрэагаваў на гэты ўчынак, распачаўшы крымінальную справу. Беларускі асіродак у Польшчы таксама паставіўся да ўчынку Каваленкі неадназначна: многія расцанілі гэта як правакацыю з мэтай распачаць скандал і прыцягнуць увагу мясцовай паліцыі.

Сябар КХП БНФ Сяргей Каваленка стаў вядомы ў Беларусі пасля таго, як 7 студзеня 2010 году прычапіў бел-чырвона-белы сцяг на вершаліне галоўнай гарадской елкі на плошчы Перамогі ў Віцебску. Сцяг знялі супрацоўнікі МНС з дапамогай адмысловай пажарнай машыны. Сяргей Каваленка быў затрыманы міліцыяй, супраць яго была распачатая крымінальная справа паводле 2-й часткі арт. 339 КК, якая прадугледжвае пакаранне за «хуліганства, учыненае паўторна ці групай асобаў, або звязанае з супраціўам асобам, якія спрабуюць перадухіліць хуліганскія дзеянні».

За гэта Каваленку пакаралі трыма гадамі «хатняй «хіміі», аднак неўзабаве зноўку прыцягнулі да крымінальнай адказнасці за парушэнне рэжыму адбыцця пакарання. Наступнае пакаранне было больш жорсткім: яму прысудзілі 2 гады і 1 месяц зняволення ў калоніі агульнага рэжыму. Гэты тэрмін ён не адбыў, бо быў памілаваны Аляксандрам Лукашэнкам. Палітвязень патлумачыў, што прашэнне напісаў пад ціскам і што яго шантажавалі пагрозамі ў дачыненні родных.

Падобнае абвінавачанне паводле арт. 370 КК за знявагу дзяржаўных сімвалаў днямі было выстаўленае супраць яшчэ аднаго беларуса ў замежжы. Былы жыхар Віцебску, кіраўнік назіральнай рады грамадскага руху «Краіна для жыцця» Глеб Івашкевіч, знаходзячыся ў ЗША, абліў беларускі дзяржаўны сцяг фарбай і побач павесіў бел-чырвона-белы.

**Якаў Дрозд**

ГРАМАДСТВА

# «ЖЫВЕМАБІЛЬ» СТАЎ «СЛАВАМАБІЛЕМ»

**Андрэй Кулакоў – віцебскі актывіст, які зведаў рэпрэсіі ў Беларусі, выбраўся з Кіева, калі яго абстрэльвалі расейскія войскі, і вось ужо некалькі тыдняў дапамагае эвакуяваным украінцам і беларусам на польска-ўкраінскай мяжы.**

«Я ўжо, напэўна, вярнуся крыху іншым чалавекам. Не тым, якім з'язджаў. Бо столькі ўсяго пабачыў, столькі ўсяго прайшоў – гэта ўжо, вядома, свой адбітак трошкі пакінула», – дзеліцца Андрэй.

У Віцебску ў Андрэя было хобі – ён займаўся аўтамабілямі «Volkswagen T3». Іх у яго было вельмі шмат. Але канал Сяргея Ціханоўскага змяніў ягонае жыццё.

«Пачалося ўсё недзе за паўгода да выбараў. Я стаў глядзець канал «Краіна для жыцця» Сяргея Ціханоўскага. І ён пачаў расплюшчваць мне вочы на тое, што не ўсё так добра ў нас у краіне. Бо да гэтага я палітыкай не цікавіўся ўвогуле», – успамінае Андрэй.

16 жніўня Андрэй размаляваў свой аўтамабіль і паехаў у горад. «Жывемабіль» вельмі спадабаўся беларусам. І прыцягнуў увагу сілавікоў.

Як толькі Андрэй заехаў у ціхі двор, яго супынілі даішнікі. Ён думаў, што яго хацелі затрымаць, таму вырашыў цягнуць час, каб паспеў сабрацца натоўп. Сапраўды, пачалі падыходзіць людзі і здымаць даішнікаў на тэлефоны. Тыя адступілі, толькі выпісалі штраф у 25 рублёў «за адсутнасць тэхагляду». Людзі тут жа скінуліся і ўручылі Андрэю гэтую суму.

Андрэя пазней затрымлівалі некалькі разоў, ён быў пакараны 15 суднямі і пераехаў ва Украіну.

«Славамабіль» у Польшчы.

Зімой Андрэй марыў стварыць такі ж «Жывемабіль» у Кіеве. Але Расея пачала наступ на Украіну. І ў выніку стварыўся не «Жывемабіль» у Кіеве, а «Славамабіль» у Польшчы.

Андрэй ужо некалькі тыдняў дапамагае эвакуяваным украінцам і беларусам на польска-ўкраінскай мяжы. Ягоная машына – сімвал беларуска-ўкраінскай салідарнасці ў Польшчы.

Андрэй пакінуў Кіеў у першы дзень расійскага ўварвання і забраў з сабою сям'ю ўкраінцаў. Ужо ў Варшаве ён развёз пару гуманітарных грузаў. Так Андрэй зрабіўся валанцёрам.

«Я займаюся менавіта развозам, бо маю машыну. Мне гэта падабаецца. За дзень бывае ад ста да трохсот асобаў», – распавядае Андрэй.

Наш герой праводзіць за стырном 8-10 гадзінаў штодня. Часам больш, але потым патрэбны адпачынак. Ён разам з іншымі валанцёрамі-беларусамі здымае кватэру. Калі ўсё збіраюцца, то праз недахоп месца даводзіцца спаць па чарзе.

«Мы не хаваем таго, што мы беларусы. У нас, у нашай групе валанцёраў, амаль усе былыя палітычныя ўцекачы беларускія. Плюс мы таксама дадаткова даносім да людзей, што Беларусь – гэта не Лукашэнка», – кажа Андрэй.

Адзіная просьба ад нашага героя – гэта дапамога беларускім валанцёрам, людзям, якія двойчы страцілі свой дом.

**Якаў Дрозд**

САЛІДАРНАСЦЬ

(пачатак на стр. 1)

— Хто дапамагаў вам матэрыяльна ў гэты час, бо, зразумела, што ваша ўстанова ўжо нічога не зарабляла?

— Спачатку мы кінулі на закупку прадуктаў усю «абаротку», што заставалася ў пабе.

Плюс у нас быў свой пэўны запас прадуктаў. Іх мы таксама раздалі людзям. А потым валанцёры абвясцілі збор сродкаў, і тыя ж людзі, якія ў нас былі, прыносілі — хтосьці бульбу, хтосьці капусту, у каго што было, таксама неслі грошы.

Дапамагала харчаваннем і вадой і Міжрэгіянальная Акадэмія кіравання персаналам, ведаючы, што ў нас знайшлі прытулак іх студэнты і настаўнікі. Магу сказаць, што салідарнасць людзей у тыя дні была проста неймаверная!

— Вы так рашуча ўключыліся ў дапамогу, а ці былі ў вас думкі з'ехаць з Украіны?

— Не, Украіну я не збіраўся пакідаць. Я вельмі аптымістычна быў упэўнены, што ворага адкінуць хутка і што ўвогуле вельмі хутка адбудзецца пералом на карысць Украіны і вайна не зацягнецца.

Да таго ж я не губляў сувязі з сябрамі, якія былі на фронце, і з самага пачатку ведаў і пра абсалютны непрафесіяналізм расійскіх войскаў, і пра іх тактычныя і стратэгічныя памылкі.

— Ці падтрымліваеце вы кантакты з кімсьці з тых беларусаў, якія чыталі ў вас лекцыі напярэдадні вайны? Яны зараз змагаюцца ў батальёне Каліноўскага?

— Так. Баявы дух і загартаванасць, перакананасць у перамозе беларускіх ваяроў таксама надавалі аптымізму. Але я істотна памыляўся наконт часу, які працягнецца гарачая фаза вайны, здавалася, што яна будзе значна больш хуткацечнай і не пяройдзе ў такую зацяжную.

Зараз відавочна, што яна не скончыцца заўтра, на жаль. Па той сітуацыі, як цяпер выглядае Кіеў, як развіваюцца падзеі на фронце, вяртанне да мірнага жыцця ў гэтым годзе, калі і чакае нас, то толькі пад самыя Каляды.

— І ўсё ж за гэтыя тры месяцы ці адчулі вы пералом да мірнага жыцця?

— У нейкі момант па валанцёрскіх справах я мусіў з'ехаць з Кіева, дапамагаў арганізоўваць прытулак для ўцекачоў у Букавіне, пад Чарнаўцамі. Вярнуўся якраз у тыя дні, калі з Кіеўскай, Чарнігаўскай і Сумскай абласцей адкінулі акупантаў.

У дзень, калі я прыехаў, гэта быў яшчэ абсалютна ваенны горад з процьмай блокпастоў, з пастаяннымі праверкамі дакументаў, непрацуючы і забарыкадаваны. А літаральна праз некалькі дзён мы ўжо назіралі, як вызваляліся дарогі, адкрываўся праезд па мастах, горад вяртаўся да колькі-небудзь нармалёвага функцыянавання.

Адчыніліся кавярні, і ў некаторых раёнчыках, дзе людзі сядзяць на летніх церасах з кавай, жыццё ўвогуле выглядае амаль мірным. З кожным днём у Кіеў вяртаецца ўсё больш і больш людзей.

— Як ставіліся да вас украінцы? Усё ж гэта была беларуская ўстанова, асабліва ў першыя дні вайны ў бок беларусаў адчуваўся і хейт, і пагрозы.

— Так, і калектыў паба, і шмат валанцераў — беларусы. І сам паб беларускі. Дык вось, ні разу не было ніякага негатыву ў наш адрас!

Людзі бачылі нашыя справы і былі вельмі ўдзячныя. Быў вельмі сімвалічны выпадак. Ужо пасля таго, як ад Кіева былі адкінутыя акупанты і большасць людзей вярнулася ў свае кватэры, да нас прыйшла пажылая жанчына спецыяльна, каб выказаць удзячнасць.

Яна хавалася ў нас са сваёй вялікай сям'ёй, у якой былі немаўляты і цяжарная жанчына, яе хросніца з Бучы. Там іх дом разбамбілі, яны ўцякалі амаль без рэчаў. Мы забяспечылі іх усім, чым змаглі.

Жанчына распавяла, што яе хросніца нарадзіла дачку і на знак павагі і ўдзячнасці беларусам за тое, як ёй дапамагалі ў самыя цяжкія дні, за той клопат і турботу, яны вырашылі назваць дачку беларускім імем Алеся, менавіта праз «а». Мы жартавалі, што трэба дзяўчынцы хросных з нашага калектыву.

— Як усе скончыцца ва Украіне, прыблізна разумеюць усе, а вось як усё скончыцца ў Беларусі, ці звязаныя падзеі ў нашых краінах?

— Безумоўна, звязаныя. Тэктанічныя зрухі пачаліся ва ўсім рэгіёне. Вайна — заўсёды вялізны пералом. Я маю надзею, што гэта вайна ў гістарычным сэнсе скончыцца прыблізна так, як Першая сусветная, Імперыялістычная, — падзеннем імперыі і вызваленнем ад расійскага гнёту не толькі Украіны, але і Беларусі, істотна зменшыцца альбо знікне і пагроза з расійскага боку іншым краінам і народам.

На жаль, за гэтую магчымасць зараз гінуць людзі ва Украіне, а ў нас на Беларусі шмат людзей сядзяць у турмах і хаваюцца ад рэпрэсій. І гэта таксама нагадвае сітуацыю, якая была напачатку XX стагоддзя.

Я спадзяюся, што ўсё не дарэмна, і што Беларусь праз гэтыя падзеі таксама атрымае шанец крута змяніць сваю гісторыю.

**Ян Сведка**

КРЫМІНАЛ

# ПОДЛОГ

**Заведующая молочно-товарной фермой из Витебского района пыталась скрыть факт падежа скота за счет своих подчиненных.**

"Женщина понимала, что за внезапную смерть взрослой коровы ей придется заплатить из своего кармана в бюджет круглую сумму. Тогда заведующая решила нивелировать расходы и переложить ущерб на подчиненных. Для этого она лично написала 11 заявлений от имени работников сельхозорганизации, которые якобы хотели купить в счет будущей зарплаты мясо буренки. По документам эта корова еще щипала траву на пастбище", - отметили в УВД, добавив, что сами сельчане не подозревали о том, что несколько месяцев будут платить за мясо, которое не видели.

Когда пришло время получать зарплату, работники молочно-товарной фермы заметили в расчетных листках новую графу. С каждого из 11 человек удерживались средства за покупку мяса. Через месяц история повторилась и привлекла уже внимание правоохранителей.

Сотрудники милиции вскрыли обман и попытки утаить факт падежа скота. Экспертиза почерка подтвердила фальсификацию заявлений и установила автора. В отношении 46-летней заведующей следователи возбудили уголовное дело за злоупотребление властью или служебными полномочиями. Женщина может лишиться свободы на срок до 6 лет.

**«БелТА»**

# СЕКСУАЛЬНАЯ ЭКСПЛУАТАЦИЯ ДЕТЕЙ

**В Беларуси в 2021 году почти в 3 раза выросло число обращений в Представительство Международной организации по миграции (МОМ) в Беларуси в связи с сексуальной эксплуатацией несовершеннолетних.**

Всего с начала работы МОМ в Беларуси в 2002 году помощь получили почти 4000 пострадавших от торговли людьми, включая сексуальную эксплуатацию несовершеннолетних. Из них около половины случаев происходит с белорусами в соседних странах (Россия, чуть реже – Польша), почти столько же – внутри республики. В первой пятерке также оказались Турция и ОАЭ, где, впрочем, за последние годы ситуация заметно улучшилась и обращений не фиксируется.

Среди пострадавших, получающих помощь МОМ, незначительно преобладают девушки – более 54%. Хотя в последние годы наметилась обратная тенденция: пострадавшими от торговли людьми чаще становятся мужчины. Более половины случаев приходится на трудовую эксплуатацию, немногим меньше – на сексуальную.

Особую тревогу вызывает ситуация с сексуальной эксплуатацией детей. Число таких обращений в МОМ в прошлом году выросло в 2,7 раза в сравнении с 2020 годом. В зоне риска – дети в возрасте от 6 до 13 лет. Многие случаи начинаются с переписки в соцсетях и чатах, когда ребенок не видит, с кем общается, а родители ничего не подозревают. «Например, мальчик в 9 лет передавал мужчине откровенные снимки ради бонусов в игре, 13-летние девочки – после обещаний о вознаграждении, а когда перестали это делать – посыпались угрозы», – приводят примеры специалисты МОМ.

Исследование также показало, что с начала пандемии COVID-19, когда дети стали больше времени проводить в интернете, выросло число случаев онлайн-эксплуатации несовершеннолетних.

«Случаи, которые мы фиксируем, представляют собой лишь вершину айсберга. Проблема гораздо масштабнее, так как часто дети, столкнувшиеся с надругательством, держат это в тайне. Нередко и родители закрывают глаза на проблему, опасаясь слухов и огласки. Однако очевидно, что чем дольше это скрывать, тем сложнее ребенку залечить психологическую травму. Конечно, лучше предотвратить такое развитие событий – стать для ребенка «умным родителем», – убеждены в МОМ. – Это вовсе не значит ущемлять свободу ребенка и контролировать каждый шаг. Достаточно знать основные источники угроз и реагировать на настораживающие факторы. На основе опыта помощи пострадавшим семьям мы подготовили советы, которые помогут сделать жизнь ребенка более безопасной».

Социальная кампания «Научи детей видеть ложь» призвана помочь родителям в защите детей от рисков сексуальной эксплуатации. Для этого запущен портал Smartparent.by, где собрана вся необходимая информация и онлайн-тест для проверки знаний, при успешном прохождении которого выдается электронный сертификат.

МОМ в Беларуси призывает родителей быть внимательными, разговаривать с детьми, укреплять доверие и учить их распознать обман и избегать контактов с незнакомцами как на улице, так и в Интернете. Для родителей ежедневно с 8 до 20 часов работает бесплатная «горячая линия» (по номерам 113 и 8-801-201-555), где подскажут, как поговорить с ребенком на эти темы.

**blizko.by**

СУДОВЫЯ СПРАВЫ

# КОМПЕНСАЦИЯ ЗА РАЗБИТОЕ СТЕКЛО

**Витеблянка отсудила у страхового общества более 3000 рублей за разбитое стекло легковушки.**

Страховое общество, не захотевшее компенсировать жительнице Витебска разбитое камнем стекло автомобиля, по суду заплатит в три раза больше.

Витебский областной суд поставил точку в споре между владелицей поврежденного автомобиля и закрытым акционерным страховым обществом «Б», которое не захотело оплатить работы по ремонту в размере 1070 рублей.

Лобовое стекло легкового автомобиля витеблянки было повреждено во время движения по улице Гагарина вылетевшим из-под колеса встречного авто камнем. 7 января прошлого года женщина обратилась за компенсацией в свою страховую организацию.

Однако 11 августа 2021 года там ей отказали в выплате, заявив, что родственник женщины, управлявший авто в момент повреждения не имел такого права, а следовательно случай — не страховой. Такой вывод был сделан на основании того, что мужчина уже после ДТП лечился в Витебском областном клиническом центре психиатрии и наркологии.

Женщина подала в суд, и 4 февраля этого года решением суда Первомайского района было постановлено взыскать с закрытого акционерного страхового общества «Б.» страховое возмещение в сумме 1070 рублей, пеню за несвоевременную выплату страхового возмещения в сумме 850 рублей, денежную компенсацию морального вреда в размере 200 рублей, расходы по оплате помощи представителя в сумме 500 рублей, а всего 2620 рублей. Дополнительным решением от 18 февраля были взысканы еще расходы по оплате помощи представителя за составление искового заявления в размере 200 рублей.

Ответчик подал апелляционную жалобу на это решение в областной суд, но и там 5 мая встали на строну их клиентки. Кроме того, теперь страховому обществу придется выплатить дополнительные 200 рублей, которые витеблянка снова должна была потратить на юридическую помощь. Всего, таким образом, фирма выплатит клиентке 3020 рублей.

**«Народныя навіны Віцебску»**

«САЮЗНАЯ ДЗЯРЖАВА»

# «ТРЭБА НЕ ПАЎЗЦІ НА КАЛЕНЯХ У РАСІЮ, А ЎСТАЦЬ. НІЯКАЙ СМЕРЦЮ ГЭТА НЕ ПАГРАЖАЕ…»

**… Наадварот. Калені перастануць балець.» Адкуль узялася эканамічная і псіхалагічная залежнасць Беларусі ад усходняга суседа. Пра гэта разважае ў сваім новым відэа журналіст Дзмітрый Гурневіч.**




— Гэтае перакананне ўбівалі ў беларускія галовы яшчэ з савецкіх часоў, і яно настолькі глыбока засела, што многія сапраўды паверылі ў «без Расія мы нішто, без Расіі мы памром», — разважае ў сваім новым відэа журналіст Дзмітрый Гурневіч. — Бо там вялізны рынак, а таму інтэграцыі з ёй няма альтэрнатывы. Менавіта таму трэба туды «паўзці на каленях». І пры гэтым беларусам паўтараюць, як мантру, «нас нідзе не чакаюць». Гэта фэйк, і гэта вам скажа любы Белстат.

На долю Расіі сапраўды прыходзіцца шмат беларускага экспарту, але нават не палова. У мінулым годзе гэта быў 41%, то бок 59% беларускай прадукцыі пастаўляецца не ў Расію, а ў іншыя краіны свету.

Тады чаму беларусаў прывучаюць да таго, што памерці яны могуць толькі без Расіі, а не, напрыклад, Еўразвязу або Украіны, — задаецца пытаннем Гурневіч.

Або яшчэ адна мантра пра «Беларусь памрэ без расійскай нафты і газа».

— Атрымліваецца, што недзе да 1963-га і 1975-га беларусы і не жылі ўвогуле, бо менавіта тады ў БССР былі пабудаваны Мазырскі і Наваполацкі нафтаперапрацоўчыя заводы і ў гэты ж час пачалася газіфікацыя Беларусі, — тлумачыць журналіст.

Дык няўжо ж беларусы да гэтага часу сядзелі на дрэвах?

Але гэта так, гістарычны нюанс, які сведчыць аб тым, што у Беларусі не было масавага голаду без расійскіх энергарэсурсаў. Што казаць? Гэта былі залатыя часы нараджальнасці беларусаў.

Так, за газ і нафту беларусы плацяць у сярэднім танней, чым іншыя дзяржавы ў свеце. Дык, а якая цана павінна быць пры такім узроўні лаяльнасці ўлады Беларусі да Крамля? Расія ж хоча мець саюзніка, хоча мець у Беларусі свае вайсковыя аб'екты. Гэта каштуе мільярды. Меншая, чым для іншых цана, — гэта зніжка за суперлаяльнасць.

Было б дзіўна, калі б беларусы пры гэтым плацілі за паліва, як палякі, якіх Масква называе русафобамі нумар адзін. Але яшчэ нюанс. Нават пры вышэйшых цэнах для Польшчы, там ніхто ад гэтага не памёр. Польшча яшчэ багацейшая за Беларусь.

Іншая справа, што самой Беларусі столькі расійскай нафты ці газу не трэба ўвогуле. Беларусь пасадзілі на расійскую іглу, прымусіўшы паверыць, што гэта яе лёс.

«А што калі Расія адключыць Беларусі газ і нафту?» — гэта чарговы плач. Беларусы, маўляў, замерзнуць, беларуская прамысловасць спыніцца.

— Па-першае, а навошта адключаць, калі за іх справўна плоцяцца? — задаецца пытаннем Гурневіч. — А, калі адключаюць проста так, каб напалохаць, то каму патрэбны такі бізнес-партнёр?

Пасля анексіі Крыма чорную будучыню малявалі і ўкраінцам «Украіне канец, Масква не пакарае, яна замерзне і памрэ з голаду». Нават ва ўмовах вайны ўкраінская эканоміка працягвала рост і далей купляла расійскае паліва, проста інакш, чым раней.

А вы чулі, што нават напаўшы на Украіну, Расія працягвае пастаўкі газу на захад праз яе тэрыторыю, плацячы за транзіт? Ажно 30% расійскага газа на Захад ідзе сёння праз Украіну, якую бамбяць расійскія ракеты.

Пры гэтым Расія даўно не галоўны гандлёвы партнёр Украіны. Яе месца заняў Кітай.

— Тое, пра што марыць Лукашэнка, ва Украіне — рэальнасць, — адзначае журналіст.

Але вернемся да газу і нафты.

Усё вельмі проста. Не толькі Захаду і Беларусі патрэбны расійскія энергарэсурсы, але яшчэ больш ад іх продажу залежыць сама Расія. Бо менавіта паліва — магутная крыніца папаўнення расійскага бюджэту.

Расія сама знаходзіцца на нафтагазавай ігле. Звярніце ўвагу, Захад увёў рэкордныя за ўсю гісторыю чалавецтва санкцыі, а ці адказала Расія тым, што цалкам спыніла пастаўкі газу або нафты ў Еўразвяз? Вядома ж не. Бо яна ведае, чым гэта для яе скончыцца — галечай.

Ва ўсім Эўразвязе даўно ідзе працэс пераходу на альтэрнатыўныя крыніцы энергіі, бо газ і нафта не вечныя, у тым ліку ў Расіі.

Яшчэ адзін улюбёны аргумент аматараў памерці без Расіі — гэта тое, што гэта не краіна, а табліца Мендзялеева. Маўляў, бо там ёсць усе карысныя выкапні і таму трэба трымацца за яе.

— За 26 год будаўніцтва так званай саюзнай дзяржавы вы шмат чулі, каб беларусам далі распрацоўваць нейкія радовішчы ў Расіі? Нягледзячы на тое, што Расія сапраўды багатая на карысныя выкапні, яе залежнасць ад імпарту каласальная, — адзначае Дзмітрый Гурневіч.

Вы чулі, як Мацвіенка казала, што ў іх нават цвікі імпартныя?

Але цвікі — гэта не элемент табліцы Мендзялеева, а вось літый — так. Пару тыдняў таму Чылі і Аргенціна заявілі, што спыняюць пастаўкі літыю ў Расію, трэцяга элемента табліцы. У выніку чаго ў Расіі прагназуюцца цяжкасці ў вытворчасці акумулятараў.

І яшчэ пра выкапні. Як вынікае з дакладу энергетычнага цэнтра Сколкава, у будучыні здабыча карысных выкапняў Расіі ў сувязі з санкцыямі істотна знізіцца, паколькі тэхналогіі там выкарыстоўваюцца менавіта заходнія. А ў выніку страты бюджэту Расіі будуць расці.

— Дык хто ўкладае грошы ў эканоміку Беларусі? У 2021 годзе прамых інвестыцый з Расіі ў Беларусь было 2,2 мільярды долараў, а з Еўразвязу на 40 мільёнаў больш — 2,24 мільярды.

Рост экспарту Беларусі ў ЕЗ, які нібыта вядзе эканамічную вайну з Беларуссю, як кажа Лукашэнка, вырас за год ажно на 74%. А з Расіяй, якая абяцала памагчы Беларусі кампенсаваць страты, — на 24%.

Гэта паказвае наколькі тэндэнцыя можа мяняцца, а ў выніку і сітуацыя, было б жаданне.

Так, бясспрэчна, Расія сёння — важны рынак для беларускай прадукцыі, але толькі таму, што ўлады Беларусі так захацелі. Але з іншага боку, чаму Расія павінна кудысьці знікнуць, а Беларусь у выніку памерці?

Ну, добра, уявім на імгненне, што Расія сапраўды кудысьці знікла, а на яе месцы ўтварыўся новы акіян. Вы сапраўды лічыце, што беларусы, дазнаўшыся пра гэта памруць? Знік калісьці Савецкі саюз. Нейкая дзяржава ад гэтага памерла?

І чулі вы, каб штосьці такое казалі лідары Казахстана, Фінляндыі, Грузіі, якія таксама мяжуюць з Расіяй і гандлююць з ёй?

Нават, калі ўявіць, што Расія як дзяржава распадзецца, а на яе месцы ўзнікнуць дзясяткі іншых дзяржаў, або яна яшчэ неяк трансфармуецца, людзі там застануцца і ім далей будуць патрэбны трактары, малочка і трыкатаж з Беларусі, — кажа Гурневіч.

Ну і пра трактары.

— Летась Беларусь прадала ў Расію 13,5 тысяч трактароў, а ва Украіну — 6 тысяч. Але насельніцтва ў Расіі ў 3,5 разоў большае, а пра тэрыторыю, якую трэба ўзараць, я ўвогуле маўчу.

Уідэале трэба дбаць пра якасць прадукцыі і празрыстыя схемы гандлю, а не выкарыстоўваць фэйкавыя клішэ пра смерць без Расіі, каб імі апраўдваць сваю марыянетачнасць у палітыцы.

Сёння Беларусь сапраўды ў многім залежыць ад Расіі. І толькі таму, што 30 год паўзе туды на каленях.

Беларусь прывязваюць да Расіі, каб потым заявіць, што без Расіі яна памрэ.

Дастаткова проста не паўзці на каленях, а ўстаць.

Ніякай смерцю гэта не пагражае. Наадварот. Калені перастануць балець.

**gazetaby.info**

ЮБІЛЕЙНЫ САМІТ

# «РИТОРИКА ЛУКАШЕНКО, НАВЕРНОЕ, ПОНРАВИЛАСЬ ПУТИНУ, НО ЯВНО НЕ ЗАЖГЛА ДРУГИХ»

**Политический аналитик Александр Класковский пишет на Позірке, как на юбилейном саммите ОДКБ призывы «активного» правителя Беларуси к «единому фронту» повисли в воздухе.**

— Он всячески старался подчеркнуть свою преданность Кремлю, критиковал других членов организации за слабую поддержку России в ее противостоянии с НАТО.

Выступление Лукашенко изобиловало привычными для него и для Кремля пропагандистскими тезисами: в нынешней войне виноваты-де коварный Запад и Украина, которая под него «легла» и которую «натравливали и подстрекали, пичкая ее национализмом, нацизмом».

Вождь белорусского политического режима попытался оправдать соучастие в агрессии тем, что Киев, мол, строил против Беларуси в последние два года всяческие козни — от закрытия неба до подготовки боевиков и разведки беспилотниками.

При этом, естественно, осталось в тени то обстоятельство, что Украина запретила Беларуси использовать свое воздушное пространство не просто из вредности, а после скандальной посадки в Минске в мае 2021 года самолета авиакомпании Ryanair. История с якобы сбитым беспилотником выглядит очень темной. И так далее по списку.

Да и в принципе такого рода претензии — это что, достаточное основание для войны, для того, чтобы позволить российским войскам выпустить по Украине с белорусской территории сотни ракет?...

**Бывшие «национальные окраины» хотят жить своим умом**

И вообще, как сообщил постфактум генеральный секретарь ОДКБ Станислав Зась, вопрос о привлечении этой организации к «специальной военной операции» России в Украине «не ставился и не обсуждался».

Это и понятно, потому что все равно был бы глухой номер. Ведь речь идет не о нападении на одну из стран ОДКБ (сколько бы ни утверждал Путин, что «мы бьемся на своей земле»), а совсем даже наоборот.

И в целом этот альянс под патронажем Москвы остается сырым, рыхлым, во многом искусственным. У его государств слишком разные интересы. Бывшая метрополия не оставила имперских замашек, напротив, стала более злой, импульсивной, нетерпимой. А бывшие «национальные окраины» хотят жить своим умом и, в частности, не ссориться с Западом.

Единственной заметной совместной операцией ОДКБ стало участие в подавлении январских протестов в Казахстане. То есть речь идет о взаимовыручке авторитарных правителей, когда надо справиться с внутренними волнениями. Под другие задачи эта структура слабо заточена.

Да, в рамках ОДКБ партнеры России не прочь получать от нее оружие по более умеренным ценам (хотя и тут особо не разживешься). Но лить кровь за имперские интересы никто не хочет. Даже Лукашенко, как известно, не разогнался посылать свои войска в украинскую мясорубку.

**Еще одна свежая идея: душить интернет**

На этой встрече Лукашенко пытался выдвинуть концептуальные предложения в целях развития альянса. Но эффективность этих идей под

*(працяг на стар. 4)*

ЮБІЛЕЙНЫ САМІТ

(пачатак на стар. 3)

большим вопросом.

Например, он предложить усилить прогнозно-аналитическую составляющую в работе Секретариата ОДКБ. Однако вся аналитика генерала Зася и его подчиненных может быть в один миг опрокинута непредсказуемостью и авантюризмом Кремля. Силу же его военно-аналитической мысли мы уже увидели на украинском примере.

В Москве рассчитывали на блицкриг, скорый парад на Крещатике, а в итоге ее войска понесли колоссальные потери, завязли, вынуждены были ретироваться от Киева и Харькова и могут быть вообще разбиты в этой позорной кампании.

Также Лукашенко предложил «пойти по пути Китая в информационной борьбе, особенно в интернете». Ну, положа руку на сердце, белорусский и российский режимы по этому пути уже и так сильно продвинулись. Неугодные сайты массово блокируются, за решетку сажают не только блогеров, но и бедолаг, просто поставивших лайк под крамольным с точки зрения властей постом.

На практике «информационная борьба», о которой говорит Лукашенко, сводится в основном к ужесточению репрессий против инакомыслия, усилению пропаганды.

Вообще же проект «Золотой щит», или «Великий китайский файрвол» (система фильтрации контента в Сети) — штука очень дорогая. А с деньгами у Минска и Москвы сейчас туго и будет все хуже из-за санкций. Да и тот файрвол китайские пользователи умеют обходить.

**Подставлять лоб за империю никому не интересно**

Еще в марте на встрече с Путиным в Кремле Лукашенко говорил, что «нам надо как-то собраться в ОДКБ, нам надо в ЕАЭС собраться, сплотиться вместе» — и тогда, мол, «через месяц забудем, что у нас есть санкции».

16 мая в Москве он снова затронул больную тему: «Уверен, что если бы мы сразу выступили единым фронтом, не было бы этих адских, как они говорят, санкций».

Но выступать «единым фронтом» (ни в прямом, ни в переносном смысле) за имперские амбиции Кремля правящие элиты Армении, Казахстана, Кыргызстана Таджикистана явно не хотят. И с какой стати они будут разделять с Москвой и Минском бремя санкций, заработанных за агрессию, если к ней непричастны?

Более того, нападение на Украину, государственность которой Путин считает недоразумением, заставило партнеров по ОДКБ поежиться, спроецировав опасность этого реваншизма на свои страны. Где гарантия, что завтра какая-то из них, показавшись Кремлю слишком самостоятельной, не попадет под такую же раздачу?

В общем, прозвучавшие на саммите речи кремлевского правителя и его белорусского соратника повисли в воздухе. По итогам встречи подписано обтекаемое, декларативное заявление, в котором среди прочего высказана, кстати, готовность налаживать практическое взаимодействие с НАТО.

Риторика Лукашенко, наверное, понравилась Путину, но явно не зажгла других участников юбилейного ритуала желанием расхлебывать кровавую украинскую кашу, которую они не заваривали.

*(скарочана)*

**gazetaby.info**

СПРАВА МЕДЦЭНТРАЎ

# «СИЛОВИКИ ОХОТЯТСЯ НА ВСЕХ ПОДРЯД...»

**Что стоит за приостановкой деятельности крупнейшего белорусского медцентра «Лодэ» и проверкой ДФР центра «Нордин» — Филин обсудил с Лидией Тарасенко, координатором организации, созданной для помощи пострадавшим от репрессий медиков.**

Лидия Тарасенко — врач-эндоскопист и гастроэнтеролог, в прошлом — заведующая отделением, в 2019-2020-м — главврач частного медцентра в Минске. В 2021 году уехала из Беларуси в Киев, сейчас живет в Польше.

— С 16 мая приостановлена деятельность «Лодэ», ранее Минздрав приостановил действие лицензий на медицинскую деятельность медцентра и «Клиники А1». Сегодня в «Нордин» пришел с проверкой Департамент финансовых расследований, медиа сообщают о задержании основателя центра Дмитрия Сайкова и его жены. Что за этим стоит, как вы считаете?

— На самом деле никто достоверно не знает, что происходит. Абсолютно очевидно, что тоталитарное государство плодит силовиков, которые охотятся на всех подряд. Степень безумия растет, как и уровень агрессии в обществе.

Почему именно сейчас взялись за медицинские центры? Мое предположение в том, что все частные бизнесы, которые можно было раскулачить, уже раскулачили. Кого могли подоить по деньгам, уже подоили.

Настал черед медицинского бизнеса. Мне кажется, что за этим в первую очередь стоят финансовые интересы.

Это может быть, в том числе, местью медицинским работникам за то, что они активно протестовали в 2020 году. Протест медиков был одним из самых яростных, а «Лодэ» защищал интересы своих сотрудников, даже вывешивал БЧБ-флаг, часть врачей «Нордина» также выходила на протесты. Поэтому это тоже нельзя сбрасывать со счетов. Одна из причин явно в этом.

***— Как, по-вашему, может ли быть целью смена собственников в этих центрах?***

— Финансовая — одна из первых причин. Как это будет реализовано — просто отберут деньги или присвоят бизнес — вопрос десятый.

***— Что вы можете сказать о нарушениях, в которых Минздрав обвинил «Лодэ»?***

— У нас очень давно законодательство в сфере здравоохранения таково, что если ты хоть что-то делаешь, то обязательно что-то нарушаешь. Такая ситуация сложилась не вчера, и принципиально в этом плане ничего не изменилось, кроме степени закручивания гаек.

Что они предъявляют, вообще не имеет никакого связи с реальностью. Почему без шапки, почему стены не того цвета — это все не имеет никакого практического смысла.

***— Решатся ли власти закрыть частные центры для того, чтобы повысить объем платных услуг в госклиниках?***

— Все что угодно они могут сделать. Это явно не делается с целью развивать. Работа остановлена. Все будет закономерно ухудшаться. Здравоохранение пикирует, доступ к медицинской помощи все более ограничен, люди не могут попасть к нужному специалисту. Сокращается количество специалистов в стране, не хватает расходников, медикаментов, оборудования, на котором можно что-то сделать, нет адекватных программ скрининга, только видимость их существует. Люди из страны уезжают.

Десять лет назад эти тенденции тоже были, просто в 2020 году с ковидом все покатилось, потом была еще одна шоковая волна. Закрытие медцентров — это еще один пинок дохлой лошади.

***— Как вы считаете, какое будущее ждет частную медицину?***

— Мы закономерно движемся к состоянию Северной Кореи. Эта цель близка. Я не представляю, какие нужно иметь выдержку, нервы и оптимизм для того, чтобы работать вообще в каком-либо частном бизнесе, тем более, в медицинском, который сопряжен с огромным количеством рисков.

**Яна Соколова**
**gazetaby.info**

ЭКСПЕРТ

# ШАНСОВ ПОБЕДИТЬ В ВОЙНЕ У РОССИИ НЕТ ОТ СЛОВА «ВООБЩЕ»

**Эксперт по безопасности, руководитель проекта Belarus Security Blog Андрей Поротников: "если мы посмотрим заявления Лукашенко в интервью Associated Press, он буквально кричит о том, что эту войну нужно как можно скорее прекращать, попугивая при этом Запад, что Россия-то может отреагировать по жестче и применить более серьезные системы вооружения."**

Эксперт по безопасности, руководитель проекта Belarus Security Blog Андрей Поротников полагает, что не стоит видеть в подобных действиях властей желание что-то действительно продемонстрировать Западу:

— Никакой демонстрации боеготовности тут нет, это плановые учения, — отмечает эксперт в экспресс-комментарии «Салідарнасці». — С учетом того, что это будет штаб и максимум две роты в каждом районе, то, скорее всего, речь идет об отработке несения службы на блокпостах и охране объектов, плюс патрулирование местности вместе с милиционерами.

На совещании по гособоронному заказу Александр Лукашенко заявил, что в Беларуси создают новую ракету образца российского «Искандера», и сообщил: с Путиным «договорились однозначно», что российские специалисты в ракетостроении «посмотрят на наши разработки».

— Что значит «посмотрят»? — удивляется эксперт. — У этого слова слишком широкое значение, чтобы делать по нему далеко идущие выводы. Посмотрят — на каком основании? Я не думаю, что кто-то просто так предоставит техническую документацию. Очевидно, речь идет либо об оказании технической помощи, либо о контракте на разработку, что, в общем, довольно распространенная практика в мире.

Та же Россия разрабатывала для Южной Кореи зенитные ракеты, для Китая с их участием разрабатывались зенитно-ракетные комплексы, для Польши — система самонаведения ЗР.

...Словом, в Минске есть четкое понимание, что Россия, а вместе с ней и Беларусь, влезла в ту войну, которую выиграть невозможно.

**— А в Кремле это понимание есть? Или там есть готовность идти до конца, поэтому стоит опасаться объявления всеобщей мобилизации?**

— Понимание того, что Россия не выигрывает, есть, в том числе у Путина. Но это не отменяет того, что может быть принято решение о мобилизации, хотя на текущем этапе оно на самом деле никаких вопросов не решает.

Хотя предугадать его действия невозможно. Мы ведь видим только часть пазла, а общая картина куда более широкая. Одну и ту же информацию разные люди воспринимают и реагируют на нее по-своему, так что тут есть и субъективный психологический фактор, и объективный. Мы видим лишь часть истории.

А история такова, что Запад все более активно вовлекается в эту войну, и если она затянется еще на некоторое время, думаю, встанет вопрос о прямом участии западных военных в конфликте с Россией.

...В таком случае (без учета того, что может произвести ВПК, поскольку его возможности были непонятны и в мирное время, и тем более, сейчас), на старых запасах военного арсенала Россия может вести войну текущей интенсивности в районе 6 месяцев.

Поставки по ленд-лизу, добавляет Андрей Поротников, открывают Украине доступ к высокотехнологичному оружию — например, истребителям F-16, которые «сотнями стоят в пустыне в Арзионе».

— Для того, чтобы освоить эту технику и создать соответствующую инфраструктуру обслуживания, нужны месяцы. Либо есть второй вариант, когда за штурвал сядут другие люди — граждане других стран, уже имеющие опыт обращения с таким оружием. Будут это кадровые военные на действительной службе или бывшие военные, контракторы ЧВК, это уже другой вопрос, но такая возможность есть.

...Американский ВПК постепенно переходит на режим производства военного времени — как для помощи Украине, так и для восстановления собственных запасов.

— Влияние ленд-лиза будет ощутимо не сегодня на завтра, но в горизонте 2-3 месяцев мы можем увидеть очень серьезные изменения в плане оснащения украинской армии той же артиллерией, — резюмирует Андрей Поротников.

*(скарочана)*

**Виктория Захарова**
**gazetaby.info**

**Заснавальнік і рэдактар:** Смолікаў Канстанцін Эдуардавіч

**Адрас рэдакцыі:** г. Віцебск, вул. 1-я Сененская д.5, Тэл. +375-29-218-98-38, e-mail: bigsmoll2007@gmail.com
Газета выдаецца з лютага 2014 г.

**Падпісана да друку 29.05.2022 у 16.35**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.